*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



НАША СЛОВА.pdf



**Другі год выдання** **№ 29 (81) 19 ліпеня 2023 г.**

# XXXII Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску"

*У 32-гі раз Вицебск прымаў Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Па традыцыі, адкрыў свята Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Ён павіншаваў усіх з адкрыццём міжнароднага фестывалю "Славянскі базар", які вось ужо трэць стагоддзя робіць цудоўны горад на Дзвіне месцам прыцягнення сапраўдных талентаў і сапраўдных знаўцаў мастацтва.*



"Мы, беларусы, не дзеля пафасу называем Віцебск культурнай сталіцай. Гэты статус наканаваны гісторыяй. І тысячу гадоў таму, калі тут праходзіў шлях з варагаў у грэкі, і сёння горад быў і застаецца скрыжаваннем нацыянальных культур і традыцый розных народаў. Тут заўсёды біўся рытм крэатыўных ідэй і задум", - адзначыў кіраўнік дзяржавы. Ён нагадаў, што ў пачатку мінулага стагоддзя ў творчых майстэрнях Малевіча, Шагала і іншых мастакоўавангардыстаў ствараліся інавацыйныя для таго часу формы мастацтва. Цяпер яны прызнаны сусветнай класікай.

Кіраўнік дзяржавы ўзнагародзіў уладальніка Гранпры XXI Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу "Віцебск" - прадстаўніка Казахстана Шэрхана Арыстана. Журы конкурсу паставіла 12-гадоваму Шэрхану Арыстану максімальныя адзнакі ў абодва дні - па 70 балаў. У выніку ён абышоў усіх супернікаў і атрымаў 140 балаў.

Аляксандр Лукашэнка ўручыў спецыяльную ўзнагароду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Праз мастацтва - да міру і ўзаемаразумення". Сёлета яе ўдастоена заслужаная артыстка Алена Спірыдовіч - нязменная вядоўца Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Раней 13 ліпеня на Алеі зорак "Славянскага базару ў Віцебску" адкрылі імянную зорку Алены Спірыдовіч.

Гран-пры XXXII Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск" адправіцца ў Арменію. Па выніках двух выступленняў у лідары выйшла Маша Мнджаян, якая ў першы конкурсны дзень знаходзілася толькі на чацвёртай пазіцыі конкурснай табліцы.



Гран-пры пераможцы ўручылі на сцэне Летняга амфітэатра на канцэрце ўрачыстага закрыцця "Славянскага базару ў Віцебску", праграму якога сумясцілі з другім конкурсным днём для маладых выканаўцаў.

Па выніках двух конкурсных канцэртаў у шасцёрцы лідараў апынуліся прадстаўнікі Арменіі, Беларусі, Расіі, Італіі, Узбекістана і Казахстана.

Армянцы Машы Мнджаян удалося значна палепшыць свае вынікі ў другі конкурсны дзень і набраць 69 балаў з 70 магчымых. Вялікі рывок зрабіў таксама беларус Самір Елчыеў, які ў выніку саступіў прадстаўніцы Арменіі толькі адзін бал.

У выніку Першую прэмію міжнароднае журы прысудзіла беларусу Саміру Елчыеву. Другая дасталася расіянцы Лізавеце Слышкінай і італьянцы Agape. Трэцяе месца падзялілі Куралай Мейрамбек з Казахстана і Маліка Хакімава з Узбекістана.

***Валерыя СЦЯЦКО, "Звязда", БелТА.***

п



# Беларускія 400-бальнікі

Летась многія СМІ пісалі пра Настассю Більдзь з Ліды, якая стала сапраўднай зоркай уступнай кампаніі. Дзяўчына з адзнакай скончыла сярэднюю школу і адзіная ў Беларуси здала кожнае ЦТ на максімальна магчымы бал.

Сёлета колькасць 400-бальнікаў значна большая.

І зноў першая інфармацыя з Ліды.

Яшчэ адна абітурыентка набрала 400 балаў з 400 магчымых. Пра поспех паведамілі ў Кіраванні адукацыі Лідскага райвыканкама.

**Паліна Дычак** скончыла сярэднюю школу №16 з залатым медалём. Сярэдні бал атэстата выпускніцы - 10,0. Паліна - уладальнік двух стобальных сертыфікатаў цэнтралізаваных іспытаў па рускай мове і хіміі. На цэнтралізаваным тэставанні па біялогіі таксама атрымала найвышэйшы бал. Такім чынам, 400 балаў з 400 магчымых.



Гэтым летам дзяўчына плануе паступіць у Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт. Спынілася на лячэбным факультэце.

400 балаў набрала **Вольга Друшчыц** са Старасельскай сярэдняй школы Жабінкаўскага раёна.

Да ўступнай кампаніі дзяўчына падышла з абсалютным вынікам у 400 балаў. Сярэдні бал атэстата вы-



пускніцы - 10,0, як піша "Адукацыя Жабінкаўшчыны".

Вольга - уладальніца двух 100-бальных сертыфікатаў цэнтралізаваных экзаменаў па беларускай мове і гісторыі Беларусі.

На цэнтралізаваным тэставанні па грамадазнаўстве таксама атрымала найвышэйшы бал!

Вольга рэгулярна з 5-га класа ўдзельнічала ў розных алімпіядах, таксама піша вершы і друкуецца.

Выпускніца Мазырскага дзяржаўнага абласнога ліцэя **Мілена Васько** набрала максімальныя 400 балаў падчас прыёмнай кампаніі гэтага года, як паведамляе Мінадукацыі.



Дзяўчына атрымала па 100 балаў на цэнтралізаваных экзаменах па рускай мове і хіміі, а таксама 100 балаў на цэнтралізаваным тэставанні па біялогіі.

Сярэдні бал атэстата Мілены Васько таксама максімальна высокі - 10,0.

Выпускніца клімавіцкай сярэдняй школы № 1 **Аліна Хартнік** у гэтую ўступную кампанію набрала 400 балаў. Прычым на рэпетыцыйным ЦТ яе бал быў 58.



Аліна атрымала па 100 балаў на цэнтралізаваным экзамене па англійскай і рускай мовах, а таксама паказала найвышэйшы вынік ЦТ па грамадазнаўстве. З улікам атэстата ў яе абітурыенцкай скарбонцы запаветныя 400 балаў, паведамляе Міністэрства адукацыі са спасылкай на "Сельскую газету".

**Марк Мацкевіч** з Наваполацка набраў максімальныя 400 балаў на цэнтралізаваным тэсціраванні -, пішуць "Витебские вести".

Марк скончыў 12-ю наваполацкую школу. Ён набраў максімальныя балы на ЦТ па рускай мове і матэматыцы. Таксама ў яго найвышэйшы бал у атэстаце і аўтаматычныя 100 балаў па фізіцы, бо ён мае па гэтым прадмеце дыплом рэспубліканскай алімпіяды.

# Беларускія 400-бальнікі



Марк захапляецца праграмаваннем, з'яўляецца выпускніком дзвюх змен Нацыянальнага дзіцячага тэхнапарку, а паступаць плануе на факультэт прыкладной матэматыкі і інфарматыкі ў БДУ.

Вучань Полацкай дзяржаўнай гімназіі №1 імя Францыска Скарыны **Дзяніс Кагукін** сёлета атрымаў па 100 балаў на цэнтралізаваных экзаменах па беларускай мове і матэматыцы. Яшчэ 100 балаў яму належыць як пераможцу заключнага этапу Рэспубліканскай алімпіяды па фізіцы пры паступленні на профільную спецыяльнасць, плюс такі ж сярэдні бал атэстата, памножаны на дзесяць.



У каментары для "Настаўніцкай газеты" Дзяніс расказаў, што ён далей збіраецца рабіць пры такіх бліскучых выніках:

"Папраўдзе, яшчэ дакладна не вызначыўся. Пераходзячы ў старэйшыя класы, я цвёрда вырашыў, што вучыцца далей буду ў Беларусі. А вось з выбарам універсітэта складана, у кожным ёсць свае перавагі”.

Выпускніца гімназіі №1 Ліды **Ангеліна Лашко** атрымала 100 балаў на цэнтралізаваным тэставанні па гісторыі Беларусі. Акрамя таго, у абітурыенткі 100 балаў па выніках цэнтралізаваных іспытаў па грамадазнаўстве і рускай мове. Сярэдні бал атэстата - 10. Ангеліна - таксама пераможца ўніверсітэцкай алімпіяды ГрДУ імя Я. Купалы па гісторыі Беларусі і рускай мове і літаратуры.



У планах дзяўчыны - паступленне на факультэт журналістыкі БДУ.

Максімальны вынік уступнай кампаніі 2023 года і ў выпускніцы гімназіі №1 Ліды **Ксеніі Сабаткоўскай**. Ксенія скончыла гімназію з залатым медалём, сярэдні бал атэстата - 10,0. Па выніках цэнтралізаваных іспытаў у абітурыенткі 100 балаў па грамадазнаўстве і рускай мове. Яшчэ 100 балаў Ксенія атрымала, заваяваўшы дыплом 1 ступені (абсалютны) на заключным этапе рэспубліканскай алімпіяды па ангельскай



мове. Сваю будучую прафесію Ксенія плануе звязаць з замежнымі мовамі і стаць студэнткай Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.

У сваю чаргу, выпускнік гімназіі горада Ганцавічы **Раман Кандраценя** меў атэстат з 10 баламі, на 100 балаў здаў цэнтралізаваныя экзамены па рускай мове і матэматыцы, а яшчэ "сотку" атрымаў па выніках цэнтралізаванага тэставання па фізіцы.



Падчас падачы інфармацыі пра 400-бальнікаў былі заўвагі, што выдатнікі выбіралі толькі рускую мову, але гэта не так. Вольга Друшчыц і Дзяніс Кагукін атрымалі 100 балаў па беларускай мове. 2 з 9 - 22%, што прыблізна адпавядае працэнту беларускую мову здаваўшых.

***Наш кар.***

# Гаварыць па-беларуску

***Зроблены важны крок у штучным сінтэзе беларускага маўлення***

*На сайце праекта "Беларускі N-корпус", дзе над стварэннем Нацыянальнага корпуса беларускай мовы працуе сектар камп'ютарнай лінгвістыкі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, з'явіўся першы сінтэзатар беларускага маўлення.*



Новая магчымасць пашырыць гарызонты распаўсюджвання беларускай мовы.

Спецыялісты адзначаюць, што даўно шукалі магчымасць стварыць сінтэзатар і цяпер свае першыя вынікі ў гэтым кірунку зрабілі даступнымі для ўсіх у раздзеле "Фанетычны канвертар і сінтэз маўлення" на сайце "Беларускага N-корпуса".

Сінтэзатар зроблены па слядах беларускамоўнай мадэлі для агучвання тэксту "Беларускі тэкст-у-маўленне" і выкарыстоўвае тыя самыя запісы для навучання, якія былі сабраны праектам donar.by. На сайце праекта donar.by можна як запісаць ("ахвяраваць") свой голас, так і праверыць ужо зробленыя запісы. Ухваленыя запісы трапляюць у набор даных Common Voice, які распаўсюджваецца пад свабоднай ліцэнзіяй і закліканы дапамагаць распрацоўшчыкам ствараць прылады для распазнавання маўлення. Менавіта гэтай магчымасцю і скарысталіся навукоўцы з Акадэміі навук.

Дэманстрацыя сінтэзу беларускай мовы.

Цяпер на сайце "Беларускага N-корпуса" можна зрабіць фанетычную транскрыпцыю любога беларускага тэксту паводле правілаў Міжнароднага фанетычнага алфавіта (IPA), або так званай "школьнай транскрыпцыі", якая шырока распаўсюджана ў айчынным мовазнаўстве. Для большасці слоў канвертар здольны самастойна падабраць і паставіць націскі для карэктнай сінтэзацыі маўлення, для больш рэдкіх словаў, напрыклад, уласных назваў, ёсць магчымасць паставіць націск самастойна. У цяперашняй тэставай версіі максімальны памер тэксту для агучвання абмежаваны 2000 знакаў.

***Паводле СМІ.***

# У Слуцку - усё па-людску







Прадукцыя Слуцкага воцатнага завода афармляецца з улікам усіх правілаў афармлення прадукцыі прадпрыемства суверэннай краіны. Усе надпісы вялікімі літарамі зроблены па-беларуску, на першай дзяржаўнай мове. Тэхналагічная інфармацыя дробненькім шрыфтам пададзена па-беларуску і па-расейску.

Так павінна быць на ўсёй прадукцыі, якая выпускаецца ў Беларусі.

***Наш кар.***

# Таямніцы лідскіх археалагічных раскопак: што хавае зямля?

Некалькі дзён для жыхароў шматкватэрных дамоў каля сквера за Лідскай дзіцячай школай мастацтваў заставалася загадкай, навошта людзі з рыдлёўкамі і іншымі прыладамі акуратна здымаюць пласты грунту, літаральна рукамі вымаюць зямлю з ямаў, засыпаюць яе ў мяшкі і выносяць за межы невялікага катлавана. Прызнацца, у гэтым выпадку не на пустым месцы нараджаліся неверагодныя здагадкі, якія пагражалі перарасці ў мясцовыя небыліцы. І вось рэдакцыя "Лідскай газеты" прыпадняла заслону таямніцы.

Аказваецца, у нашым горадзе, пачынальна з 10 ліпеня, вядуцца самыя сапраўдныя археалагічныя раскопкі. І вынік ужо ёсць.

- Раскопкі праводзяцца на плошчы больш за 50 квадратных метраў. Іх мэта - прасачыць гарадскую забудову і выявіць артэфакты розных гістарычных перыядаў, у тым ліку і перыяду Вялікай Айчыннай вайны, - распавёў дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі Станіслаў Юрэцкі.



Групе энтузіястаў з ліку археолагаў і навуковых супрацоўнікаў Лідскага гістарычна-мастацкага музея ўжо ўдалося зафіксаваць досыць вялікі фрагмент будынка (хутчэй за ўсё, жылога дома). Гэта артэфакты XIX - пачатку XX стагоддзя.

- Мы толькі пачалі працаваць, знялі два пласта зямлі і ўпэўнены, што цікавейшыя знаходкі ў нас наперадзе, - заўважыў Станіслаў Юрэцкі.

Не меней значная гэтая падзея і для мясцовых жыхароў. Па словах дырэктара Лідскага гістарычна-мастацкага музея Вольгі Лук'ян, у самім горадзе археалагічныя раскопкі ніколі не праводзіліся, хоць ідэя іх правесці паўстала даўно - яшчэ ў 80-х гадах XX стагоддзя. Раскопкі вяліся толькі на тэрыторыі Лідскага замка. Але пачынальна з 2020 года пры падтрымцы старшыні райвыканкама Сяргея Ложачніка і па яго ініцыятыве ідэя пачала ажыццяўляцца.

- У поле зроку было парадку пяці месцаў. Закладваліся папярэднія шурфы, але ў канчатковым выніку, пасля правядзення перамоў з мясцовымі краязнаўцамі, вывучэння архіўных дакументаў у нашым музеі, Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, археалагічная інтуіцыя Станіслава Юрэцкага не падвяла. Усе прыйшлі да высновы, што праводзіць іх трэба менавіта ў гэтым месцы.





Для музея гэтая падзея - унікальная магчымасць развіваць новы кірунак навукова-даследчай дзейнасці, які распавядае пра гарадскі ўклад. Нажаль, у фондах музея практычна няма археалагічных знаходак за гэты гістарычны перыяд (за выключэннем тых, што прынеслі самі лідзяне). Па выніках раскопак будзе створана асобная выставачная прастора, дзе і будуць прадстаўлены ўнікальныя артэфакты.

***

Нажаль, з-за шчыльнай жылой забудовы ў Лідзе засталося не так шмат месцаў, дзе можна праводзіць археалагічныя раскопкі. Таму каштоўная кожная магчымасць дакрануцца да сапраўднай гісторыі. На дадзеным пятачку ажыўленай гарадской вуліцы працы будуць працягвацца на працягу двух тыдняў. І мы абавязкова распавядзём, што ўдалося адшукаць навукоўцам-энтузіястам.

***Вольга Капцэвіч.***

*https://lidanews.by/news/life/30083news.html.*





*Навіны Германіі*

# Магістратура ў Германіі

***Выпускнікі праграм "Магістратура ў Германіі" маюць выдатныя кар'ерныя шанцы***

Магістратура ў Германіі разлічана на людзей, якія атрымалі ступень бакалаўра ці спецыяліста і ахвотнікаў працягнуць сваю адукацыю ў Германіі, атрымаць другую вышэйшую ці ступень магістра. Для прыняцця ўдзелу ў гэтай праграме абавязковым патрабаваннем з'яўляецца валоданне нямецкай мовай, якое пацвярджаецца сертыфікатам пра здадзены моўны іспыт. Калі ведаў недастаткова, мы арганізуем адмысловыя падрыхтоўчыя курсы ў любой з нямецкіх моўных школ.

Падрабязней:

**Мова навучання**

На большасці праграм магістратуры ў Германіі навучанне на нямецкай мове, існуюць праграмы магістратуры з навучаннем на ангельскай, а таксама двухмоўныя праграмы. Для пошуку праграм на жаданай мове рэкамендуем скарыстацца паслугай падбору ВНУ і праграм.

**Кірункі навучання**

У нямецкіх універсітэтах існуе велізарны выбар кірункаў і спецыяльнасцяў навучання, такіх як:

- Права, палітыка, міжнародныя адносіны;
- Бізнэс, менеджмэнт, эканоміка, маркетынг;
- Гасцінічны, турыстычны, падзейны менеджмэнт;
- Кампутарныя навукі, IT;
- Фінансы і бухулік;
- Журналістыка, PR і камунікацыі;
- Дызайн і выяўленчае мастацтва;
- І многія іншыя

**Перавагі**

- Бясплатнае навучанне ў нямецкім універсітэце;
- Адсутнасць уступных іспытаў;
- Магчымасць паступіць у дактарантуру і пачаць навуковую кар'еру ў еўрапейскім універсітэце;
- Фінансавая падтрымка навуковых даследаванняў і маладых навукоўцаў;
- Для маладых людзей - адтэрміноўка ад службы ў войску;
- Нізкія выдаткі на пражыванне ў Германіі падчас навучання;
- Кансультацыі і падтрымка нашымі супрацоўнікамі падчас навучання;
- Магчымасць падарожнічаць па краінах Еўрапейскага саюза на ўвесь час навучання, дзякуючы студэнцкай



шэнгенскай візе;
- Магчымасць карыстацца паслугамі лепшых медыцынскіх установаў Германіі, дзякуючы студэнцкай медыцынскай страхоўцы
- Шматлікія зніжкі і палёгкі на ўвесь час навучанні (праязныя квіткі ў грамадскім транспарце, турпаездкі і экскурсіі, кіно, музеі і многае іншае);
- Для выпускнікоў: унікальная магчымасць працаўладкавання і пры жаданні - атрымання віду на жыхарства ў Еўропе.

**Кошт навучання**

Кошт навучання на магістратуры ў Германіі вагаецца ад 0 € (бясплатная вучоба ў дзяржВНУ) да 700 € за семестр. Часта вучоба ў прэстыжных дзяржаўных ВНУ Германіі абыходзіцца танней, чым на платных аддзяленнях расійскіх ВНУ. Кошт навучання, як і кошт жыцця студэнта ў Германіі залежыць ад горада і зямлі, у якой вы плануеце вучыцца. Пасля залічэння ва ўніверсітэт вы атрымаеце статус студэнта, што значна паменшыць вашы выдаткі на пражыванне ў Германіі. Вам будуць надавацца студэнцкія палёгкі: льготны праезд на ўсіх тыпах транспарту, льготнае страхаванне, зніжкі ў тэатрах і кіно і г.д. Пры паступленні Вы таксама атрымаеце доўгатэрміновы від на жыхарства і дазвол на працу.

**Уступныя іспыты**

Уступныя іспыты як правіла адсутнічаюць. У залежнасці ад універсітэта і кірунка могуць быць выключэнні, напрыклад, на кірункі дызайн і выяўленчае мастацтва.





**Працягласць навучання**

Працягласць навучання на праграмах магістратуры ў Германіі складае ў сярэднім чатыры семестры ў залежнасці ад універсітэта і абранай спецыяльнасці.

**Неабходныя дакументы**

- Дыплом пра вышэйшую адукацыю ці акадэмічная даведка, калі дыплом яшчэ не атрыманы;
- Рэкамендацыйныя лісты з месца атрымання першай вышэйшай адукацыі;
- Выпіска з дыплома з указаннем прадметаў, колькасці акадэмічных гадзін і адзнак;
- Уступнае эсэ на нямецкай мове (матывацыйны ліст);
- Біяграфія (Lebenslauf);
- Сертыфікат пра здачу DSH ці TesDaf (таксама амаль ва ўсіх ВНУ прымаюць сертыфікаты ZOP, GDS, KDS, DSD);
- Работы па мастацтве, мастацкія работы пры паступленні на творчыя спецыяльнасці.

**Увага!** Спіс дакументаў прыблізны і залежыць ад абранага вамі ВНУ. Нашы кансультанты паінфармуюць вас пра астатнія дакументы, якія патрабуюцца ад вас.

**Тэрміны падачы дакументаў**

Акадэмічны год складаецца з двух семестраў: зімовы і летні. Дакументы для паступлення таксама могуць падавацца два разы ў год на зімовы ці летні семестр. Апошні дзень падачы заявы на летні семестр: 15 чэрвеня-ліпеня (тэрмін залежыць ад ВНУ). Апошні дзень падачы заявы на зімовы семестр: 15 снежня-студзеня (тэрмін залежыць ад ВНУ).

**Прызнанне дыплома**

Навуковая ступень магістра мае некалькі відаў:
- Магістр мастацтваў. Master of Arts (M.A.);
- Магістр навук. Master of Science (M.Sc.);
- Магістр дзелавога адміністравання Master of Business Administration (MBA);
- Магістр права. Legum Magister (Master of Laws), (LL.M);
- Магістр дзяржаўнага кіравання. Master of Public Administration (MPA);
- Магістр тэхнічных навук. Master of Engineering (M.Eng.);
- Магістр багаслоўя. Master of Divinity (M.Div.).

Дзякуючы якасці нямецкай адукацыі, дыплом нямецкай ВНУ прызнаны ў большасці краін свету. Выпускнікі праграм магістратуры ў Германіі маюць выдатныя кар'ерныя шанцы на міжнародным рынку працы, а студэнты з усяго свету едуць на вучобу ў Германію, паколькі атрыманыя імі дыпломы прызнаюцца на радзіме.

***Study In.***

# 30 гадоў таму адбыўся Першы з'езд беларусаў свету



30 гадоў таму ў Менску 8-10 ліпеня 1993 года ў будынку тэатра оперы і балета адбыўся Першы з'езд беларусаў свету.

З'езд быў арганізаваны Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына". Прысутнічалі 996 дэлегатаў ад беларускіх арганізацый з Беларусі і беларускіх суполак з замежжа. З іх - 486 дэлегатаў з замежжа: Англіі, Аргенціны, Аўстрыі, Аўстраліі, Бельгіі, Германіі, ЗША, Канады, Польшчы, Францыі, Чэхіі, Швейцарыі, Расіі, Украіны, Малдовы, Туркменіі, Казахстана, Кыргызстана, Узбекістана, Эстоніі, Літвы, Латвіі. 510 дэлегатаў з Беларусі і 200 гасцей.

З'езд меў мэтай аб'яднанне беларусаў свету і арганізацыйнае афармленне сусветнай беларускай супольнасці як новай грамадскай структуры на карысць нацыянальнага адраджэння і будаўніцтва самастойнай беларускай дзяржавы. Ён прыняў Дэкларацыю аб прынцыпах дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі, звароты да беларускага народа, замежных беларусаў да сваіх суайчыннікаў на Бацькаўшчыне, да парламента і ўрада Беларусі, да Вярхоўнага Савета Беларусі аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі на будынку, дзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, заяву па вайсковым пытанні, рэзалюцыю аб падтрымцы дзейнасці ЗБС "Бацькаўшчына", аб дзейнасці беларускай рэдакцыі радыё "Свабода", пастанову аб Радзе прадпрымальнікаў беларускай дыяспары.

Далей з'езд працаваў як кангрэс ЗБС "Бацькаўшчына", на якім выбраны новы кіраўнічы орган - Вялікая рада з прадстаўнікоў беларускіх арганізацый Беларусі і замежжа (97 чалавек), а таксама прэзідэнт ЗБС Радзім Гарэцкі і старшыня Рады Ганна Сурмач. У адпаведнасці з праграмай з'езда праведзены сустрэчы яго ўдзельнікаў з грамадскасцю Беларусі, Купалле на Стаўбцоўшчыне і ў вёсцы Баркалабава на Быхаўшчыне, Нарачанскі форум для дзяцей і моладзі, выстаўка твораў мастацтва з Беларусі і замежжа і г.д. Матэрыялы і дакументы Першага з'езда беларусаў свету выйшлі з друку асобнай кнігай.

***Вікіпедыя.***





# Сумная вестка з Ліды



У Лідзе памёр **Міхась Бурачэўскі**. Адарваўся тромб… Міхасю было 64 гады.

Пахавалі 4-га ліпеня на лідскіх могілках Зосіна-2.

Міхась Бурачэўскі актывіст беларускага нацыянальнага руху ў Лідзе ад яго пачатку і да канца. На працягу многіх гадоў быў нязменным старшынём рэвізійнай камісіі Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

Уваходзіў у ліквідацыйную камісію па ліквідацыі Установы інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ", якая выдавала газету "Наша слова". Яго подпіс стаіць на ліквідацыйных дакументах.

Удзельнічаў у многіх масавых мерапрыемствах нацыянальна-гістарычнага плану ў Лідзе і іншых мясцінах Беларусі.

Міхась Бурачэўскі быў высокакласным фатографам, пачынальна з простых плёначных фотаапаратаў. Як фатограф аб'ехаў з сябрамі краязнаўцамі ўсю Лідчыну, фіксуючы на плёнку найпрыгажэйшыя мясціны краю. Яго фотаздымкі часта друкаваліся ў "Нашым слове" і "Лідскім летапісцы".

Светлая памяць сапраўднаму патрыёту Беларусі.

*На здымку Міхась Бурачэўскі піша 16-ю Агульнанацыянавльную дыктоўку 2023 года.*

# "Пры нявысветленых абставінах" памёр мастак Алесь Пушкін



У ноч з 10 на 11 ліпеня ноччу ў рэанімацыі пры нявысветленых абставінах памёр **Алесь Пушкін**, - паведаміла ў фэйсбуку яго жонка Яніна.

Пушкін памёр у Бальніцы хуткай дапамогі.

У сакавіку мінулага года яго асудзілі на пяць гадоў калоніі па абвінавачванні ў "рэабілітацыі нацызму" і здзек з дзяржаўных сімвалаў. Як "рэабілітацыю нацызму" інтэрпрэтавалі напісаны ім партрэт антысавецкага партызана. Прычым, на момант завядзення справы мастак быў у Кіеве, але спецыяльна вярнуўся ў Беларусь. Яго затрымалі праз пару дзён у Жылічах, дзе ён працаваў на рэстараўцыі палаца.

Алесь Пушкін нарадзіўся 6 жніўня 1965 года ў вёсцы Бобр Крупскага раёна. Прыкладна з шасці гадоў пачаў маляваць. У 1978 годзе паступіў у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя Івана Ахрэмчыка, затым паступіў на курс манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). У 1984 годзе быў прызваны ў армію, служыў у Афганістане.

Алесь Пушкін браў актыўны ўдзел у руху нацыянальнага адраджэння. Ахвяраваў на алтар нацыянальнай ідэі ўвесь свой талент і ў выніку жыццё.

Пахавалі Алеся Пушкіна ў родным Бабры 13 ліпеня. Адпяванне адбылося ў мясцовым праваслаўным храме, адноўленым пасля пажару ў 2011 годзе.

Светлая памяць вялікаму мастаку і патрыёту!





Міхал Ромер

# Віленская прэса

***Ад перакладчыка:*** *Міхал Піус Пасхаліс Ромер (1880-1945) - польскі і літоўскі вучоны, грамадска-палітычны дзеяч. У 1911-15 гг. супрацоўнічаў з газетай "Наша ніва", быў членам рэдакцыі віленскай газеты "Kurier Krajowy" ("Краёвы кур'ер"; 1913 г.). У 1920 г. асудзіў захоп Віленшчыны войскамі генерала Люцыяна Жалігоўскага і ў знак пратэсту пераехаў у Літву. Прафесар права (1922 г.) і рэктар Ковенскага (1927-28, 1933-39 гг.), прафесар Віленскага (1940-45 гг.) універсітэтаў. У час нацысцкай акупацыі арганізоўваў у Вільні тайнае навучанне, падтрымліваў сувязь з рухам Супраціўлення.*

Вілеская прэса хутка развіваецца і становіцца ўсё лепшай. Пры гэтым адрозніваецца яна не толькі сваімі перакананнямі, часам яна адлюстроўвае супярэчлівыя інтарэсы і памкненнямі асобных слаёў насельніцтва і грамадскіх класаў, але галоўнае - яна выказвае розныя нацыянальныя інтарэсы. Гэта сведчыць пра развіццё грамадскай свядомасці, што без сумневу вельмі добра. Але пэўныя крайнасці раз'яднання і сваволі, якія суправаджаюць прагрэсіўную дыферэнтацыю, маюць, відавочна, негатыўны па сваёй прыродзе характар і патрабуюць падпарадкавання прэсы пэўнай этычнай дысцыпліне.

Апошнім часам на старонках некаторых віленскіх выданняў разгарнуліся шматлікія спрэчкі і палеміка, якая прынамсі, выражае нястрыманую сваволю, магчымую толькі пры адсутнасці ўсякай адказнасці ці неабходнасці адказваць за свае словы. Маю тут найперш на ўвазе палеміку "Кур'ера Літоўскага" з беларускай "Нашай Нівай". Віленская публіка больш за пяць гадоў ведае "Нашу Ніву" як адну са шчыра і паслядоўна дэмакратычных краёвых нацыянальных газет, незалежнае, свабоднае ад усялякай змовы з сённяшняй мацнейшая рэакцыяй ва ўсіх яе формах. Праз свой такт і паслядоўную прыхільнасць да дэмакратычнага падыходу, гэта значыць да адстойвання эканамічных, сацыяльных і культурных патрэб сялянства, якому яна служыла і выразнікам якога з'яўляецца, газета здолела заваяваць павагу калег і ўнікнуць каляіны нацыяналізму, не крыўдзячы нічые нацыянальныя перакананні і пачуцці. З усіх краёвых нацыянальных выданняў, "Наша Ніва" і "Lietuvos ukininkas" [1] - найлепш прыстасаваныя да патрэб народа.

Ініцыяванае жменькай інтэлігентаў выдавецтва "Нашай Нівы" з года ў год усё больш рабілася справай самога народа, непасрэдным выразнікам тых вялікіх сярмяжных мас, якія на тэрыторыі ад Гародні да Смаленска і ад Прыпяці ажно за Дзвіну, размаўляюць на сваёй роднай мове і маюць сваю адметную этнічную культуру. Праз "Нашу Ніву" першы раз у гісторыі загаварыў гэты заснулы народ, народ з мяккім сэрцам і вялікай пакорай, з народнай тужлівай паэзіяй, не пазбаўлены хітрасці і розуму, народ бедны і прыгнечаны.

Сёння "Наша Ніва" - гэта не толькі смелае пачынанне жменькі завадатараў, не толькі штаб без войска. З-за колькасці надрукаваных у газеце карэспандэнцый, з-за лістоў зацікаўленых асоб, з-за вялікай колькасці народных пісьменнікаў і паэтаў, якія друкуюцца ў ёй і такім чынам разносяць свае словы па ўбогіх хатках і простых сэрцах Беларусі, мы беспамылкова можам зрабіць выснову пра прагрэс такой з'явы, якая акрэсліла сябе як беларускі рух. Сёння гэты рух ствараецца непасрэдна самым народам, ён ёсць прынцыпова дэмакратычны і інакшым быць не можа. Характар гэтага руху вельмі сімпатычны і цікавы. Бліжэйшыя суседзі беларусаў - літоўцы, знаходзяцца ў стадыі нацыянальнага адраджэння, у працэсе, у які яны ўступілі каля 30 гадоў таму і які быў пазначаны вялікімі гістарычнымі канцэпцыямі, заснаванымі на прыцягальнасці далёкіх падзей і гістарычных традыцый, апранутых у залатыя шаты легенд і прыгожыя нацыянальныя лозунгі, а ў беларусаў аналагічны працэс пачаўся ў больш спрыяльных сацыяльных і культурных умовах, у перыяд свабоды прэсы і большага ўзрушэння сялянскай масы пасля рэвалюцыі. Ад самага пачатку беларускі рух развіваўся больш паслядоўна, пад непасрэдным кантролем самога народа, развіваўся ён як рух перш за ўсё сацыяльны. Не лёгка ўбачыць у ім якую-небудзь нацыянальную нянавісць, але праз гэты грамадскі рух, без сумневу, можна ўбачыць, як у беларусаў расце жаданне фармаваць сваю культуру на ўласных ментальных падмурках і ўсведамляць сваю культурна-гістарычную адметнасць.

Безумоўна, шляхі развіцця руху ідуць праз трывалы пасіўны супраціў інерцыі, з-за якой кожны новы рух мусіць з цяжкасцю прабіваць сабе дарогу. А яшчэ ёсць цяжкія палітычныя ўмовы, як агульныя, гэтак і спецыфічныя, якія для беларусаў вынікаюць з іх нацыянальнага сваяцтва з Расіяй, і з-за гэтага сваяцтва на беларусаў сёння ўздзейнічае моцны сёння рускі нацыяналізм.

Гэты рух, самым выдатным выразнікам і чыннікам якога з'яўляецца "Наша Ніва", як грамадскі рух сялянскай дэмакратыі, відавочна, з дэмакратычнай кропкі гледзішча з'яўляецца станоўчай з'явай для развіцця края. Бо сялянская маса пачынае ўсведамляць свае грамадскія патрэбы, адыходзіць ад ідэалагічнай немачы і інерцыі і сістэматычна пачынае браць у свае рукі стырно кіравання сваімі справамі і сваім развіццём.

[1] "Lietuvos ukininkas" ("Літоўскі гаспадар") - штотыднёвая літоўская газета. Выходзіла ў Вільні з 1 (14) снежня 1905 да 16 (29) ліпеня 1915 і з 23 лістапада па 25 снежня 1918. - *Л. Л.*

Таксама не варта здзіўляцца, калі кансерватыўныя накірункі і арганізацыі, для якіх развіццё дэмакратыі з'яўляецца непажаданай з'явай, па-нядобраму глядзяць і выказваюць шэраг прэтэнзій да такога руху. Ва ўмовах палітычнай свабоды яны маюць на гэта поўнае права, бо кансерватыўныя плыні неабходны ў кожным грамадстве дзе яны выконваюць ролю рэгулятара прагрэсу. Цяжка чакаць, каб клерыкальныя ці класічныя абшарніцкія выданні прыхільна ставіліся да дэмакратыі і паважалі палітычны рух за яго дэмакратычны характар, як нельга патрабаваць ад выданняў, якія паразітуюць на сённяшняй дзяржаве, такія як газеты сп.сп. Саланевічаў ці Скрынчанкаў[2], каб яны прызналі нацыянальныя ідэі "чужынцаў" і такім чынам добраахвотна выпусцілі са сваіх рук панаванне ў краі. Але адна справа - змагацца з рухам і выкрываць яго праз яго сапраўдныя рысы, і зусім іншая - дзейнічаць праз інсінуацыі і фабрыкаваць абвінавачванні, якія не адпавядаюць рэчаіснасці. Такім улюбёным палемічным пытаннем, з-за якога звычайна агідна крытыкуюць ці выкрываюць які-небудзь рух, з'яўляецца нацыянальнае пытанне. У атмасферы нацыяналізму аргументы супраць яго знайсці не цяжка. Бо нацыянальныя пачуцці, якія з вялікім піетызмам шануюцца ў нашым сэрцы, увесь час падлягаюць праследаванню, здзеку і знявазе і таму, у якасці аднаго з найбольш эфектыўных інструментаў барацьбы з гэтым гвалтам, яшчэ пры нашых дзядах нашы нацыянальныя пачуцці абвастрыліся да такой ступені ўразлівасці, што пры найменшым, нават выпадковым дотыку да іх, яны нам баляць, і гэты боль выклікае інтуітыўную рэакцыю. Таму гэтая зброя мае максімальную эфектыўнасць у змаганні з чымсьці ці з кімсьці, нават калі няма аргументаў або калі вы нават не жадаеце па-сапраўднаму іх прыводзіць.

І менавіта такім чынам "Kurjer Litewski" вёў палеміку, ці дакладней кампанію, супраць "Нашай Нівы". У шэрагу палемічных артыкулаў, "Kurjer" абвінавачваў яе ў пашырэнні нянавісці да палякаў, у відавочнай антыпольскай прапагандзе і, нарэшце, у нібыта прыхаваным саюзе ці *"entente cordiale"*[3] паміж накірункам "Нашай Нівы" і антыпольскай прагнасцю рускіх нацыяналістаў, такіх як сп. Саланевіч і інш., якія, як вядома, з'яўляюцца найбольш варожымі і бязлітаснымі ворагамі беларускага руху.

Рэзкія і вельмі важныя для польскай думкі абвінавачванні. Але на чым яны заснаваныя і наколькі апраўданыя?

Вось галоўныя грахі "Нашай Нівы", з-за якіх, паводле "Kurjera", пайшлі ўсе гэтыя абвінавачванні:

- "Наша Ніва" заднім чыслом не ўхваляе пазіцыю Пражскага славянскага з'езда[4] колькігадовай даўніны, на якім не было ўкраінцаў і беларусаў і на якім украінцаў і беларусаў не прызналі асобнымі нацыянальнымі адзінкамі, што вядома, з'яўляецца цяжкай крыўдай, якая балюча ўспрымаецца беларусамі і імі ставіцца ў віну рускім, польскім і чэшскім дэлегатам з'езда. Гэта першы грэх "Нашай Нівы". Ці вінаватая ў гэтым польская дэлегацыя, трэба яшчэ высветліць, але факт застаецца фактам - сваім удзелам у з'ездзе, сваёй згодай ці адсутнасцю пратэсту з яе боку, польская дэлегацыя санкцыянавала гэткае стаўленне да беларусаў. Але "дзе грошы, а дзе лес?" Ці польская дэлегацыя ў Празе, ці нават тыя рэакцыйныя палітыкі, якіх яна прадстаўляла там - гэта польская нацыя? Ці польская дэмакратыя мае дачыненне да гэтай славутай пражскай дэлегацыі? Якія былі паўнамоцтвы ў польскай дэлегацыі ў Празе, калі яна раілася са сп. Бобрынскім[5] *et tutti duanti*[6]? І чаму абвінавачванні ў бок гэтай дэлегацыі і груп, якія яна мела гонар прадстаўляць, трэба разглядаць

[2] Пасля паражэння рэвалюцыі 1905-1907 гг. актывізавалася правая, чарнасоценная частка палітычнага спектру Беларусі. У такіх выданнях, як "Виленский вестник", "Минское слово", "Окраины России", "Крестьянин", актыўна супрацоўнічалі Д. Скрынчанка, С. Кавалюк, Л. Саланевіч і інш. Гэтыя выданні наўпрост субсідзіраваліся ўладай. Іх ідэйна-палітычным крэда быў лозунг "Расія для рускіх, і рускія павінны ёю кіраваць". Таму яны актыўна змагаліся супраць усіх палітычных сіл, якія стаялі на пазіцыях самавызначэння народаў і их аўтаноміі. Беларусь яны лічылі "спрадвечна рускім краем". Існаванне беларускай нацыі не прымалася, а беларусы прыпісваліся да вялікаросаў. З асаблівай сілай яны настроіліся супраць беларускага нацыянальнага руху і яго ідэйна-палітычнага натхняльніка - газеты "Наша ніва". - *Л. Л.*

[3] Entente cordiale (фр.) - сардэчная згода, тут гульня словамі, гэтак жа зваўся франка-англа-рускі саюз, так званая "Антанта" (Entente), якое ў прэсе таксама звалася "Сардэчнай згодай", такім чынам сэнс абвінавачвання ў "Антанце паміж рускімі і беларусамі". - *Л. Л.*

[4] Першы з'езд неаславістаў у Празе адбыўся з 30 чэрвеня па 5 ліпеня 1908 г., ён складаўся з амаль што 80 дэлегатаў. Былі прадстаўлены сем народаў: балгары, палякі, рускія, славенцы, чэхі, сербы і харваты. Найбольш шматлікай была руская дэлегацыя. Прэзідыум з'езда складаўся са старшыні чэха К. Крамаржа, шасці намеснікаў старшыні і сямі сакратароў - па аднаму ад кожнай з прысутных народнасцей. Усе пытанні спачатку абмяркоўваліся ў дэлегацыях, а потым прымалася канчатковае рашэнне з'езда. Удзельнікі мелі права прадстаўляць сваю пазіцыю на роднай мове, а галоўныя палажэнні і рэзалюцыі перакладаліся на рускую, польскую і чэшскую мовы. Мовай міжславянскіх зносін абвяшчалася руская мова. Беларусы нават не атрымалі запрашэнне на з'езд. Не прысутнічала і ўкраінская дэлегацыя, якая сама адмовілася ехаць у Прагу. Прычынамі адмовы былі: неўключэнне ў праграму з'езда пытання аб адносінах украінцаў да рускіх і палякаў; непрызнанне славянскай племяннной салідарнасці, накіраванай супраць германізму, і незапрашэнне беларусаў. - *Л. Л.*

[5] Маецца на ўвазе Аляксей Аляксандравіч Бобрынскі (1852-1927), археолаг, палітычны і дзяржаўны дзеяч, рускі нацыяналіст і лідар неаславянскага руху ў Расіі, прапраўнук імператрыцы Кацярыны II і яе фаварыта Г. Арлова. - *Л.Л.*

[6] Et tutti duanti (італ.) - і ўсімі гэтымі. - *Л. Л.*





як антыпольскую акцыю? Тым больш, чаму негатыў у адносінах да гэтай дэлегацыі можа стаць падставай да абвінавачвання беларускага руху ў таемных хаўрусах з ворагамі палякаў з кола расійскіх нацыяналістаў, якія пануюць у краі?

Што тычыцца закідаў у хаўрусе з рускімі нацыяналістамі, то гэта можа больш адносіцца да удзельнікаў Пражскага кангрэсу, чым да іх апанентаў. І сапраўды, чэрпаць аргументы з Пражскага кангрэсу ў абарону нацыянальных інтарэсаў і пачуццяў на Хелмшчыне, у заходніх землях і г. д., раўназначна здзеку. Пражскаму кангрэсу ў лепшым выпадку можна даравяць яго памылкі, але ён не можа служыць нагодай для пахвалы ці абароны нацыянальнага гонару, а таксама доказам антыпольскай кампаніі "Нашай Нівы".

- У чым другі грэх "Нашай Нівы"? - Яна вось патрабуе беларускую мову ў касцёлах. Не адмаўляю, што гэта вельмі складанае пытанне, якое патрабуе ўважлівага і тактоўнага абмеркавання. Ведаю, што рускія нацыяналісты і правыя з лагера сп.сп. Саланевічаў і Кавалюкоў, пад выглядам народнай мовы ў каталіцкім дадатковым набажэнстве, прагнуць прымусіць да рускай мовы і зрабіць касцёл прыладай русіфікацыі беларусаў. Праваслаўныя ж святары ідуць далей і жадаюць скарыстаць гэтую тэндэнцыю на карысць не толькі русіфікацыі, але і праваслаўя. Ці можна, урэшце, вінаваціць беларусаў з "Нашай Нівы" ў чужых намерах, якія падставы ёсць падазраваць іх у гэтым?

Беларуская "Наша Ніва" ставіць моўную справу публічна, а менавіта зыходзіць толькі з патрэбаў народу, бо гаворка ідзе, відочна, пра беларускую мову - мову народа. А маўклівы хаўрус з агітацыяй Саланевічаў і Кавалюкоў трэба даказваць аргументамі, інакш, зважаючы на ўсю дзейнасць гэтага выдання і істотныя рысы беларускага руху, гэта ёсць альбо свядомы паклёп, альбо легкадумнасць, чаго добрасумленныя публіцысты не павінны дапускаць.

Ачарненне беларускага нацыянальнага руху шляхам абвінавачвання ў нібыта антыпольскіх тэндэнцыях, якія чэрпаюцца або з крытыкі польскай дэлегацыі ў Празе, або з патрабавання беларускай мовы ў касцёле, павінна быць спынена дэмакратычнай прэсай. Можна турбавацца аб неадкладным увядзенні гэтай мовы ў касцёл у сучасных палітычных умовах, але не трэба абвінавачваць беларусаў у тэндэнцыях, якіх няма.

Ва ўсялякім разе, той жа "Kurjer" без усялякіх агаворак, перадрукаваў артыкул "Non possumus" [7] з "Dwutygodnika Djecezjalnego", у якім выказваецца правільны прынцып (фактычна супадаючы з прынцыпам "Нашай Нівы"), што беларускую мову, калі яе патрабуюць парафіяне, трэба ўключаць у дадатковую службу і гэтым пацвердзіў пазіцыю "Нашай Нівы". Бо абмеркаванне гэтага пытання на старонках беларускай газеты - г. зн. у органе таго самага народа, чыя воля была прызнана вырашальнай, не ёсць нічым іншым, як прымяненнем вышэйзгаданага прынцыпу? Ці можна выказаць прынцып, што воля народа павінны вырашыць гэтае пытанне і адначасова забараніць казаць пра гэта? Тут маецца відочная супярэчнасць.

"Kurjer Litewski" (артыкул у № 108 гэтага года), імкнучыся давесці чытачам думку аб тоеснасці памкненняў "Нашай Нівы" з марамі сп.сп. Кавалюкоў, цытуе паказальныя для яго кавалкі з ліста ў газету нібыта беларускага народнага карэспандэнта. Як пазней высветлілася, гэты ліст насамрэч не быў лістом ад карэспандэнта, а быў ананімнай паперкай, напісанай нейкім спадаром, які раней пісаў у польскія часопісы розных накірункаў - гэты спадар не быў і не ёсць беларусам. І аўтар "Kurjera" добрасумленна карыстаўся гэтым лістом, не ведаючы, што мае справу з ананімным пасквілем, напісаным падробным беларусам.

Варта таксама задумацца, ці робіць "Kurjer Litewski" добрую паслугу польскасці, апранаючы сваю кампанію супраць беларусаў у польскае адзенне? Гэта можа стаць эфектыўным прыніжэннем беларускага руху і яго газеты. Але *"acta manent"* [8]. У народнай памяці беларусаў, якія ў такіх цяжкіх умовах уздымаюцца на нацыянальнага жыцця, школа якую ім учыняе "Kurjer" сваімі абвінавачваннямі, атаясамліваюцца з польскім народам. "Kurjer" спрабуе выступіць у гэтай справе выразнікам нацыянальных інтарэсаў але злоўжыванне дабротамі як і накладанне нацыянальнай анафемы тымі, хто не мае на гэта права, помсціць не толькі ім але і міжнацыянальным дачыненням. […]

Здаецца мне, што адпаведным сродкам стрымлівання палемікі ў прэсе і адначасова спосабам падпарадкавання яе патрабаванням этыкі з мэтай прадухілення шкоднай сваволі ў нацыянальных спрэчках, было б стварэнне Віленскага таварыства літаратараў і журналістаў. Пры такім таварыстве, якое, акрамя ўзаемадапамогі і іншых функцый прафесійнай арганізацыі, павінна было б мець і ганаровы літаратурна-прэсавы суд. Таксама трэба было б стварыць аддзел па справах нацыянальнасцяў. Такое таварыства ў нас павінна было б мець нацыянальныя аддзелы - а менавіта на польскі, летувіскі, беларускі, рускі і яўрэйскі.

Не сумняваюся, што рэалізацыя гэтага праекта па многіх прычынах з'яўляецца вельмі складанай, але я лічу яго вельмі своечасовым. Сёння наша прэса знаходзіцца ў поўным разбурэнні, і адзінае, што выратоўвае нас ад краху літаратурных і журналісцкіх традыцый, гэта тое, і мы павінны гэта прызнаць, што наш друк уключае ў сябе шмат ідэйнага элементу.

*Romer Michal. Prasa wilenska // Preglad Wilenski. 1912. № 22. S. 3-6.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***

[7] Non possumus (лац.) - не можам. - *Л. Л.*

[8] Acta manent (лац.) - дакументы застаюцца. - *Л. Л.*

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Мэтанакіраваныя, рашучыя і… лёгка ранімыя: Вольскі, Грынкевіч, Федарэнка, Шчацько*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-28 (53-80) за 2023 г.)*

**ВОЛЬСКІ Віктар** - нарадзіўся на станцыі Злынка ў тагачаснай Гомельскай вобласці (цяпер у межах пасёлка Вышкаў Новазыбкаўскага раёна Бранскай вобласці) *"у сям'і службоўца з літоўскіх дваран"*. Вучыўся ў Беларускім лесатэхнічным інстытуце ў Гомелі (цяпер Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт у Менску).

Не проста чыноўнік - кіраўнік лацінаамерыканістыкі, але і сапраўды здольны навуковец і прадуктыўны аўтар (бібліяграфія - яго і пра яго - у зборніку, з якога мы цытуем ніжэй, займае 20 старонак). Лічаць, што яму належыць найбольшая колькасць лацінаамерыканскіх узнагарод і званняў сярод прадстаўнікоў сфер навуковага і грамадскага жыцця СССР / Расіі. Сярод іх Ордэн Ацтэкскага арла і Ордэн "Сонца Перу". Ён быў ганаровым грамадзянінам Рыа-дэ-Жанейра, Кіта, Гвадалахары, Мерыды, Халапа-Энрыкеса і Новазыбкава (у гэтым пераліку не хапае Гомеля).

*"Крутыя павароты лёсу, найшырэйшы спектр дзейнасці, важкі ўклад у розных галінах навукі Віктара Вацлававіча выклікаюць захапленне і здзіўленне. Здаецца неймаверным, як можна паспець здзейсніць за адно жыццё ўсё, што ўдалося Вольскаму. Сам Віктар Вацлававіч лічыў, што лёс адмераў яму тры жыцці. Менавіта так ён і збіраўся назваць свае мемуары - "Тры жыцці Віктара Вольскага". На жаль, з задуманай кнігі былі напісаны і захаваліся толькі першыя тры старонкі пра даваеннае жыццё.*

*Дзяцінства і малалецтва В. В. Вольскага прайшло ў расійска-беларускай глыбінцы, дзе ён перажыў голад, гібель бацькі і амаль усіх сваякоў, цудам і клопатамі маці выжыў, цяжка перахварэў на тыф, рана заахвоціўся чытаннем, марыў аб далёкіх краінах, спазнанні таямніц прыроды і служэнні ідэі ўдасканалення свету. Ужо тады ў яго характары праявіліся ўпартасць і мэтанакіраванасць, выявіліся незвычайныя здольнасці да вучобы, фенаменальная памяць, пачуццё прыгожага. Гэта быў пачатак жыцця, які здаваўся ў сталыя гады цэлым жыццём.*

*А потым была вайна…"*

Вольскі атрымаў званне Героя Савецкага Саюза за подзвіг у час Яска-Кішынёўскай аперацыі 1944 г.

*"У 1949 г. В. В. Вольскі датэрмінова з адзнакай заканчвае МДІМЗ [МГИМО]. Здавалася б, што мары аб далёкіх падарожжах вось-вось пературацца ў рэальнасць. Аднак рэальнасць аказваецца іншай. Праца ў арганізацыях, звязаных з замежнымі паездкамі, у той час была цалкам выключаная для сына і брата рэпрэсаваных і мужа дачкі-"ворага народа". Для працы ў МЗС*

БЕЛОРУССКО-ИНДЕЙСКОЕ ОБЩЕСТВО
246049, Гомель, а/я II4, т.(0232)481544

Институт Латинской Америки РАН №32/I 15.3.1993
II3035, Москва, М-35, Большая Ордынка, 21 Фонд Давида Выгодского

Уважаемые товарищи !

В этом году исполняется I00 лет со дня рождения и 50 лет со дня смерти Д.И.Выгодского.

Еще в 1991 г. мы предпринимали усилия по мемориализации нашего земляка; в 1992 г. опубликована статья и получен благоприятный предварительный ответ властей на наше предложение назвать именем Д.И.Выгодского улицу и установить памятную доску.

Мы приветствовали бы участие ИЛА в работе Фонда Давида Выгодского или совместной с Гомельский еврейский историко-просветительской организацией (координатор Э.З.Гуткин) группы по изучению наследия Выгодских.

Будем признательны за ваше весомое слово по оценке личности и вклада в латиноамериканистику Д.И.Выгодского в письмах, направленных нам и председателю Гомельского городского совета народных депутатов С.К.Гольдаде (246624, Гомель, Советская, 16, Горисполком).

Особенно надеемся на поддержку сотрудников вашего института - уроженцев Беларуси, список которых нам желательно было бы иметь для более успешной координации белорусской и российской латиноамериканистики.

С уважением
А.В.Симаков,
исполнительный секретарь БИО

***Letter to Institute of Latin America (Moscow, Институт Латинской Америки) 1993-03-15***



РОССИЙСКАЯ АКАДЕМИЯ НАУК
ИНСТИТУТ ЛАТИНСКОЙ АМЕРИКИ
113035, Москва, М-35, Б.Ордынка, 21
Для телеграмм: Москва, М-35, ИЛА
Тел.: 233-53-23, 233-43-40. Факс: (7-095) 233-40-70
Р/с №608315 в Москворецком филиале МИБ, МФО 201133
06.04.93 . 14303-5112-130

246049 Гомель а/я II4
А.В.Симакову

Уважаемый тов. Симаков !

В связи с вашим письмом по поводу I00-летия со дня рождения Д.Выгодского направляем оттиск статьи о нем, опубликованной в журнале "Латинская Америка" (1983, №2). Сама эта публикация уже говорит о том серьезном вкладе, который внес Д.Выгодский в развитие довоенной советской латиноамериканистики.

Что касается вашей просьбы указать фамилии наших сотрудников-уроженцев Белоруссии, то к ним относятся канд. ист наук З.Ивановский, к.и.н. Т.Ротова и канд. филол. наук В.Маслюков.

Вашу идею о координации белорусских и российских латиноамериканистов мы полностью поддерживаем.

Директор Института
Латинской Америки РАН чл-корр.РАН Вольский В.В.

***Letter from Victor Volski (Volsky) В. В. Вольский (Інстытут Лацінскай Амерыкі) 1993-04-06***

